


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 21 (505) — Нядзеля, 22 травеня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Палітыка на мяжы вайны

Канфэрэнцыя на найвышэйшай узроўні, якая мела на мэце разьвязаць або прынамся злагодзіць найбольш запальныя для сьветавага міру праблемы, была Хрушчовам сарваная яшчэ перад сваім фактычным пачаткам. Навет найбольшыя пэсымістыя ў сьвеце, якія ў найгоршым выпадку спадзяваліся поўнай бясплоднасьці канфэрэнцыі, гэтак старанна абодвымі бакамі прыгатаўлянай яшчэ ад 1957 году, такога ейнага лёсу ўсё-ж не чакалі.

Пасьля парыскай катастрофы увесь вольны сьвет стаў перад пытаньнем, што магло стацца прычынай такой раптоўнай зьмены палітычнага курсу Савецкага Саюзу. Ці патое Хрушчоў гэтак пасьлядоўна й казойліва на працягу некалькіх апошніх год дамагаўся канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні, якой прарочыў бліскучыя вынікі, каб напасьледак, пасьля фармальнага адкрыцьця, яе сарваць? Пры гэтым сарваньне наступіла ў грубых і абразьлівых для прэзыдэнта Амэрыкі словах, якія ў вуснах кіраўнікоў цывілізаваных краінаў хіба яшчэ ніколі не спатыкаліся. Ці патое Хрушчоў і ўся савецкая прапаганда аж да нудоты заклікае Захад да мірнага суіснаваньня й ліквідацыі сьветавага напружаньня, каб у вадзін кароткі мамэнт гэтае напружаньне давесьці да найвышэйшага завайстрэньня? І гэта без дастаткова абгрунтаваных прычынаў?

Выпадак з амэрыканскім разьведвальным самалётам, зьбітым на асабісты загад Хрушчова 1-га траўня ў ваколіцах Сьвярдлоўска, вакол якога разыгралася ўся гісторыя, быў бясспрэчна толькі прэтэкстам, каб апраўдаць неяк новы савецкі палітычны курс, які можна безь перавялічэньня назваць палітыкай на мяжы вайны. Тут цынізм Хрушчова быў даведзены проста да камізму. Дзяржава, якая разбудавала наймагутнейшую й да нябывалых разьмераў разгалінёную шпіёнскую сетку ў цэлым сьвеце, якая для шпіёнскай акцыі выкарыстоўвае ў сьвеце кантраляваныя ёй камуністычныя партыі, якая выкрала ў Амэрыкі сакрэт атамнае бомбы, дыпляматычныя прадстаўнікі якой направа й налева займаюцца сыстэматычнай шпіёнскай акцыяй ды ваенныя самалёты якой адбываюць усьцяж разьведвальныя лёты над краінамі НАТО, раптам факт дробнага рэванжу з боку Амэрыкі, якім быў састрэлены 1-га траўня амэрыканскі самалёт, паднесла да ўзроўня ваеннае агрэсіі супраць Савецкага Саюзу.

Як перадумовы да правядзеньня Парыскай канфэрэнцыі, Хрушчоў ультыматыўна зажадаў, каб прэзыдэнт Айзэнгаўэр публічна сьцьвердзіў, што факт із самалётам узапраўды быў актам агрэсіі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, каб публічна перапрасіў за гэта Савецкі Саюз у васобе Хрушчова, прыцягнуў да адказнасьці вінаватых за арганізацыю лёту над савецкай тэрыторыяй і каб, напасьледак, загарантаваў, што падобныя выпадкі ў будучыні болей не паўторацца. Згары трэба адкінуць думку, што Хрушчоў, ня гледзячы навет на сваю нахабнасьць, хоць на мінуту мог спадзявацца, што прэзыдэнт Амэрыкі пойдзе на такое самапаніжэньне. Дык і гэтыя ультыматыўныя дамаганьні Хрушчова былі толькі фармальным прэтэкстам для зрыву Канфэрэнцыі й для таго, каб у вачох наіўных усю віну за зрыў зваліць на Амэрыку.

Яшчэ на першай Канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні ў Жэнэве ў 1955 г. прэзыдэнт Айзэнгаўэр запрапанаваў, каб у мэтах узаемнай бясьпечнасьці й уніканьня неспадзяванага раптоўнага заатакаваньня згадзіцца на свабодную ўзаемную паветраную інспэкцыю. Гэты разумны і ўзапраўды ў сучасных умовах неабходны для ўзаемнай бясьпечнасьці амэрыканскі праект, які атрымаў назоў праекту «свабоднага неба», быў Саветамі бяз дыскусіі адкінуты. Гэтак сама ўвесь час адкідаюцца Савецкім Саюзам заходнія праекты раззбраеньняў з адначаснай кантроляй іхнага правядзеньня, як неадлучнай і адзінай гарантыі, што гэтае раззбраеньне будзе ўзапраўды праводжанае абодвымі бакамі. Затое адно толькі дзеля мэтаў прапаганды Савецкі Саюз высоўвае дэмагагічны праект татальнага раззбраеньня, але бязь ніякае кантролі. Кантроля мэла-б быць дапушчаная адно толькі пасьля заканчэньня працэсу раззбраеньняў. Заходні сьвет ужо мае столькі горкіх дасьветчаньняў і нязьлічонае мноства канкрэтных прыкладаў, калі Саветы ўрачыста запэўніваюць адно, а робяць зусім адваротнае, каб і ў гэтым выпадку, бадай найважнейшым і найбольш жыцьцёва важным, паверыць Саветам на слова.

Апрача гэтага, межы краінаў вольнага сьвету зьўляюцца наўсьцяж адкрытымі, а на іхных тэрыторыях ня існуе забаронных зонаў. Прэса й радыё вольнага сьвету публічна інфармуе аб усялякіх мерапрыемствах і плянах у галіне палітычнай, эканамічнай і навет вайсковай. Таму савецкая разьведка без асаблівых цяжкасьцяў можа здабываць патрэбныя ёй інфармацыі. Ня ў прыклад заходнім дзяржавам, межы Савецкага Саюзу зьўляюцца гэрмэтычна закрытыя, на ягонай тэрыторыі замежныя наведвальнікі могуць парушацца адно пад наглядам прыдзеленых ім праваднікоў, ня могуць наведваць г. зв. забаронных зонаў, а ворганы публічнае інфармацыі, як прэса й радыё, старанна хаваюць праўду аб жыцьці краіны, або, дзеля змыленьня праціўніка, сьвядома падаюць хвальшывыя дадзеныя. А пры сучасным разьвіцьці ваеннае тэхнікі паасобныя дзяржавы, у мэтах собскае бясьпечнасьці й абароны перад раптоўным нападам, патрабуюць ведаць усё для іх патрэбнае аб праціўніку.

З гэтага й выходзіў амэрыканскі праект «свабоднага неба» й праекты раззбраеньняў пры аднача́снай іхнай кантролі. Калі-б ролі былі адваротныя й над амэрыканскай тэрыторыяй быў зьбіты савецкі разьведвальны самалёт, дык Саветы напэўна, як і заўсёды ў падобных выпадках, заявілі-б, што быў гэта самалёт усякі іншы, але толькі не разьведвальны. Амэрыка-ж адкрыта сказала ўсю праўду, бо пры нязвычайна інтэнсыўнай і проста нахабнай савецкай шпіёнскай акцыі мінімальная разьведвальная акцыя з боку Амэрыкі зьўляецца ня толькі натуральнай і ўсправядліўленай, але навет неабходнай і жыцьцёва канечнай, і то не для мэтаў агрэсіі, але собскае бясьпечнасьці.

Маючы гэта наўвеце, міністар замежных справаў ЗША Гэртэр і наагул дзяржаўныя дзейнікі ў Вашынгтоне на савецкія пратэсты адказалі, што Амэрыка будзе й далей праводзіць разьведвальныя лёты над Савецкім Саюзам, пакуль апошні ня згодзіцца на акцыю ўзаемнае кантролі. Калі-ж у Парыжы прэз. Айзэнгаўэр зрабіў аднабаковае асьветчаньне, што Амэрыка ўсё-ж спыніць разьведвальныя лёты над Савецкім Саюзам, хоць гэта ня будзе зьвязваць ягонага наступніка на становішчы прэзыдэнта, дык зрабіў гэта напэўна не таму, што спалохаўся Хрушчова, але з гледзішча на саюзьнікаў Амэрыкі.

Няма найменшага сумлеву, што інцыдэнт з амэрыканскім самалётам Савецкі Саюз разьдзьмухаў да нябывалых разьмераў ня толькі патое, каб знайсьці прычыну для зрыву Канфэрэнцыі, але га-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Напярэдадні IX Сэсіі Рады БНР

Як даведваемся з камунікату Прэзыдыюму Рады БНР, IX (пасьля другой сусьветнай вайны) Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі пачынаецца ў Нью Ёрку 22. травеня Багаслужбай Яго Высокапраасьвяшчэнства Ўладыкі Васіля ў Саборы Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. Пасьля гэтага ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру Прэзыдэнт Мікола Абрамчык выступіць з публічным дакладам для беларуска-амэрыканскай калёніі на тэму: Аб агульным міжнародным палажэньні, палажэньні ў Беларусі, дзейнасьці ворганаў Рады БНР на выгнаньні й аб нашых заданьнях на будучыню.

Пасьля трохтыднёвага перапынку — 12-га чэрвеня пачнуцца паседжаньні Сэсіі, якая, паводля пляну Прэзыдыюму, мае закончыцца ў першым тыдні ліпеня.

У міжчасе ад 22-га травеня да 12-га чэрвеня Прэзыдэнт наведае галоўнейшыя беларускія асяродкі ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі і ў Канадзе. Прэз. Абрамчык зробіць там падобныя даклады і правядзе нарады зь мясцовымі сэкратарамі Рады БНР перад пачаткам працы Сэсіі ў Нью Ёрку.

Перад ад'ездам у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, Прэзыдэнт Абрамчык наведаў галоўнейшыя сэктары Рады БНР у краінах Эўропы. Гэтыя сэкраты, як і сэктар Рады БНР у Аўстраліі і ў Паўдзённай Амэрыцы, прышлюць свае прапановы і пажаданьні дзеля абмеркаваньня іх Сэсіяй.

# МЭМАРАНДУМ

**высланы ад імя Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) на імя Прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра, Прэзыдэнта Францыі дэ Голя, Прэм'ера Вялікабрытаніі Макміляна і Віцэпрэзыдэнта ЗША Ніксана.**

Эксцэленцыя,

З нагоды заплянаванай канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні, якая мае пачацца ў Парыжы 16-га травеня сёлета, маем гонар зьвярнуцца да Вас ад імя экзыльных урадаў і нацыянальна-палітычных цэнтраў:

Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Казакіі, Крыму, Ідэль-Уралу, Туркестану і Ўкраіны, просячы Вас ветліва зьвярнуць Вашу ўвагу на наступнае:

1. Вышэйпералічаныя народы складаюць бальшыню насельніцтва Савецкага Саюзу;

2. Народы гэтыя абвесьцілі ў 1917-1918 гадох свае незалежныя дэмакратычныя дзяржавы, якія сталіся ахвярай нічым не справакаванай агрэсіі з боку Савецкай Расеі і былі ёй збройна заваяваныя;

3. Прыгаданыя народы нясьпынна працягваюць змаганьне за сваё вызваленьне ад накінатага ім Крамлём найбольш жорсткага ў гісторыі людзтва каляніяльнага рэжыму, і што рэжым гэты нашыя народы ўважаюць за рэжым, накінуты чужаземнай дзяржавай — Расеяй;

4. Нашы народы зьвяртаюць свае ўстрывожаныя позіркі на заплянаваную канфэрэнцыю на найвышэйшым узроўні і спадзяюцца ад Валікіх Дэмакратыяў Захаду належнай падтрымкі ў іхным цяжкім змаганьні з крамлёўскай тыраніяй;

5. Эвэнтуальная дамоўленасьць Вялікіх Дэмакратыяў з Крамлём на мірнае суінаваньне пры ігнараваньні суверэнна-законных правоў нашых народаў была-б толькі актам маральнай падтрымкі камуністычна-бальшавіцкіх агрэсараў і цяжкім ударам для нашых народаў у іхным вызвольным змаганьні;

6. Мірнае суіснаваньне вольнага сьвету з крамлёўскай тыраніяй, у той час, як апошняя ня толькі адмаўляе мірнае суіснаваньне з нашымі запалоненымі народамі, але пагражае іхнаму фізычнаму існаваньню як народам, **адкрыта ўжываючы ў дачыненьні да іх мэтад гэнацыду,** — усклала-б на вольны сьвет, а ў першую чаргу на Вялікія Дэмакратыі, цяжкую маральную адказнасьць перад гісторыяй людзтва.

Шчыра жадаючы найлепшых удачаў у Вашых намаганьнях дасягнуць справядлівага й трывалася міру, застаемся ў надзеі, што Вы не забудзеце таксама і аб трагічным лёсе нашых народаў за зялезнай заслонай.

Прымеце, Эксцэленцыя, выражэньні найглыбейшае да Вас пашаны.

Нью Ёрк, 9. травеня 1960 году.

**Мікола Абрамчык**

Старшыня Лігі Вызваленьня Народаў СССР

# Сутнасьць грашовай рэформы ў СССР

Згодна пастановы апошняе сэсіі Вярхоўнага Савету ў Савецкім Саюзе будзе праведзеная грашовая рэформа. Будуць выпушчаныя новыя грашовыя знакі. Абмен старых грашовых знакаў пачнецца зь 1-га студзеня 1961 году й працягнецца тры месяцы. Між іншага, яшчэ ў 1957 годзе, ня толькі за мяжой, але і ў Савецкім Саюзе, сярод насельніцтва хадзілі чуткі аб грашовай рэформе. З гэтымі чуткамі ў Савецкім Саюзе вялося змаганьне. Так, прыкладам, заступнік міністра фінансаў Эстонскай ССР у 1957 годзе палічыў патрэбным апублікаваць адумысловае растлумачэньне, што чуткі аб грашовай рэформе распаўсюджваюцца варожымі элемэнтамі, каб пасеяць паніку сярод народу. Заступнік міністра растлумачваў, што няма ніякіх падставаў верыць чуткам, бо «грашовая рэформа можа быць выклікана толькі глыбокай эканамічнай катастрофай у краіне. Наш рубель моцны й пакупная здольнасьць яго непарушная».

Эстонія ня была выключэньнем, чуткі аб грашовай рэформе распаўсюджваліся па ўсім Савецкім Саюзе, У канцы 1957 г. у «Праўдзе» быў зьмешчаны фэльетон, у якім высьмейваліся меркаваньні, што новы рубель будзе каштаваць 4 руб. 50 кап. старых.

Аднак чуткі аб грашовай рэформе мелі свае падставы. Паводля афіцыяльнага курсу адзін даляр каштуе 4 рублі, ангельскі фунт штэрлінгаў — 11 рублёў, заходня-нямецкая марка — адзін рубель. Вось-жа, каб прыцягнуць замежную валюту, у 1958 годзе былі ўведзены адумысловы, гэтак званы «турыстычны» курс рубля, прыкладна ў 2,5 разы ніжэйшы ад афіцыяльнага курсу. Замест 4 рублёў за даляр даюць 10 рублёў, за фунт штэрлінгаў — 27 рублёў 60 кап., за марку — 2 руб. 39 кап.

Турыстычны курс рубля сьветчыў, што пакупная здольнасьць рубля не адказвала ягонаму афіцыяльнаму курсу.

„У сваім дакладзе на сэсіі Вярхоўнага Савету Хрушчоў стараўся пераканаць удзельнікаў сэсіі, што савецкі рубель зьяўляецца самай моцнай валютай, які пасьпяхова забясьпечвае сацыялістычнае будаўніцтва. Паклікаўся ён і на такі факт, што кажны год растуць уклады жыхарства ў ашчадныя касы. Паводля цьверджаньняў Хрушчова рэформа скароціць выдаткі савецкай дзяржавы ў праводжаньні разьлікаў на прадпрыемствах і ўпросьціць падлік у народнай гаспадарцы.

Новы рубель будзе замяняць 10 старых рублёў. Паводля гэтага новага курсу будуць зьніжаныя ўсе аптовыя, закупачныя й розьнічныя цэны на ўсе тавары. Аплата кватэр, камунальных паслугаў, кошт білетаў на транспарце, паштовыя выдаткі ды ўсе іншыя віды разьлікаў будуць зьменшаныя з разьліку замест 10 рублёў — 1 рубель. Аднача́сова паводля гэтага разьліку будзе ўстаноўлена плата за працу работнікаў і службоўцаў, заробак калгасьнікаў, розныя пэнсіі й стыпэндыі.

Хрушчоў запэўніваў, што «гэтае мерапрыемства ня выкліча ніякага супраціву ні з боку жыхарства, ні з боку дзяржавы». Наколькі гэтае хрушчоўскае тлумачэньне адказвае запраўднасьці?

На абмену старых грашовых білетаў савецкім грамадзянам даецца тры месяцы. Парадак абмену грошай вызначаны такі, што выключае магчымасьць застацца «невядомым» уласьнікам грашовых сяродкаў. Як адзначана ў пастанове, «старыя грошы будуць прыймацца ад грамадзян, прадпрыемстваў і арганізацыяў банкамі й ашчаднымі касамі для залічэньня на ўклады, на бягучыя й разьліковыя рахункі». Ёсьць намер праводзіць неабмежаваную абмену старых грошай на новыя ў адумыслова адкрытых пунктах Дзяржбанку.

Аднак хто з грамадзян Савецкага Саюзу, маючы пэўныя сумы грошай, сьмела сунецца зь імі на абменны пункт? Горкі досьлед мінулага навучыў асьцярожнасьці й разважнасьці. Ёсьць іншы шлях, на які стануць тыя, хто мае грошы. Каб захаваць сяродкі, пачнецца шырокая скупка ўсялякіх патрэбных і непатрэбных заляжалых тавараў у каапэрацыйных і дзяржаўных магазынах. Пашырацца апэрацыі й на гэтак званых «чорных рынках». Аднак усе гэтыя апэрацыі патрэбна праводзіць вельмі асьцярожна, азіраючыся, каб ня быць прыцягнутым да адказнасьці за спэкуляцыю.

Ад абмены грошай на новыя білеты будзе мець карысьць савецкая дзяржава, а ня жыхарства. Каапэрацыйныя й дзяржаўныя гандлёвыя прадпрыемствы збудуць дарагія й заляжалыя тавары, кошт якіх цяпер (у СССР) складае дзесяткі мільярдаў рублёў. Ня ўсе грошы будуць за тры месяцы абмененыя. Частка іх застанецца на руках, як непатрэбная папера.

Новыя папяровыя грашовыя білеты будуць выпушчаныя ў цане 1, 3, 5, 10, 25, 50 і 100 рублёў. Разьменныя мэталёвыя знакі будуць выпушчаныя вартасьцяй у 1, 2, 3, 5, 10, 15, 20, 50 капеяк і 1 рубель.

Вось-жа пры пералічэньні некаторых дробных тавараў, якія цяпер каштуюць 10 капеяк па новай расцэнцы яны будуць каштаваць адну капейку. Прыкладам, за электрычнасьць трэба плаціць 40 руб. 34 кап. У пераводзе на новыя грашовыя знакі будзе вызначана аплата у 4 руб. 4 кап. Тут адразу відаць, што дзяржава ў падобным выпадку выйграе. Значна большыя прыбыткі яна будзе мець пры пераацэнцы розных спажывецкіх тавараў.

Вось дзе сутнасьць новай грашовай рэформы ў нутранай фінансавай палітыцы СССР.

**В. Б.**

## ДА ЎВАГІ ДП У НЯМЕЧЧЫНЕ

**British Council Aide for Refugee хоча забраць на сталы пабыт у Вялікабрытанію старых і хворых ДП, якія не змаглі эміграваць з прычыны хваробы ці старасьці.**

**Асобы, што жадаюць прыехаць у Вялікабрытанію, просіцца скласьці заяву на наступны адрас:**

Mr. A. Szotzko, 52, Penn Rd. London N. 7.

**У заяве трэба зазначыць: век, хваробу, прычыну нявыезду й жаданьне эміграваць.**

**Заявы просіцца складаць да 31-га травеня 1960 году.**

*З нашай мінуўшчыны*

# Кракаўскі Унівэрсытэт і перадскарынаўскія Крывічы з навуковымі тытуламі

(Працяг з папярэдняга нумару)

Гэткая чыста крывіцкая або літоўская мэта Кракаўскага Унівэрсытэту вылажана таксама ў бульлі Папы Яна 23 (так!) з 28 ліп. 1410 г. у якой паўтараецца фармуліроўка Ягайлы, «каб сваіх суродзічаў і подданых ягонага (Ягайлы) княства Літоўскага... перарабіць на сьветлых сыноў».

Мэта гэтая вызначаецца Ягайлам у шматлікіх іншых дакумантах з пазьнейшага часу. Так напр. у грамаце з 15 чэр. 1401 аб маемасным забясьпечаньні прафэсараў тэалёгіі Ягайла падкрэсьлівае, што студыі маюць служыць перш за ўсё Ліцьве. Падобныя літоўскія мэты Кракаўскага ўнівэрсытэту знаходзім у Ягайлавых граматах з 1417, 1419, 1426 гг.

І ня толькі з пункту гледжаньня праўнага Ягайла прызначаў абедзьве навуковыя ўстановы для сваіх суродзічаў зь Літвы, але із самага пачатку Кракаўскі Унівэрсытэт ён паставіў пад літоўскую кантролю. Гэтак першым рэктарам ягонага Унівэрсытэту быў князь Драгічынскі, Ян, сын Бутаўта Кейстутовіча, прыдворны Ягайлы, канонік Кракаўскі й Сандамерскі ад самага прыезду Ягайлы. У дакумантах перахаваўся запіс выбару яго на рэктара 15 кастр. 1401 г., дзе падаецца гэтак ягонае паходжаньне: „Illustris princeps et venerabilis dominus, dominus Johannes dux Drogicinensis, custos et canonicus Cracoviensis et Sandomiriensis ecclesiarum“.

«Найясьнейшы князь і дастойны пан, пан Ян, кн. Драгічынскі, кустош і канонік Кракаўскай і Сандамерскай Цэркваў».

Як бачым, справа выхаваньня моладзі была даручана не Паляку але сваяку Ягайлы, Ліцьвіну, які таксама займаў важныя пасады у самых галоўных царкоўных польскіх асяродках: у Кракаве й Сандомеры. Дадайма да гэтага, што Кракаўскім япіскапам у тым часе быў Пётра Выш — Вугорац, прафэсар каранічнага права Падуанскага Унівэрсытэту, апостальскі пранатары ды прыбочны каралевы Ядвігі, які поўнасьцяй падтрымліваў вялікалітоўскую палітыку Ягайлы й Вітаўта — дык будзем мець яркі вобраз так званых «польскіх» уплываў на Ягайлу й на Ліцьву.

Першаму рэктару Кракаўскага Унівэрсытэту не прышлося доўга займацца выхаваньнем моладзі. Памёр вясной 1402 г. Ягонае месца заняў ягоны сябра з школьных часоў у Празе ды таксама кракаўскі і сандамерскі канонік, доктар кананічнага права — Мікалай з Горкава, давераны Ягайлы й Вітаўта, пакліканы ў 1407 г. на пасад Віленскага япіскапа. За ягоных рэктарскіх часоў ведаем, што на Ягайлавым Унівэрсытэце вучыўся Марцін, канонік і кустош Віленскай катэдры, які меў пад сваім наглядам скарб катэдральны й дзяржаўны архіў Вял. Кн. Літ. Аб гэтым маем весткі ў Длугаша (III, 469), нажаль аб іншых студэнтах не перахаваліся дадзеныя. Ня значыць гэта, што ня было нашых родзічаў на студыях у Кракаве, на сваёй навучальні. Відаць, што наплыў моладзі быў вялікі, пераважна мяшчанскай, беднай, бо ў 1409 г. была створаная ў Кракаве бурса (інтэрнат) для літоўскай моладзі пры вуліцы Вісьлянай. Бурсу зарганізаваў сваім коштам прафэсар тэалёгіі Ян Існаровіц (Чэх), пастанавіўшы, каб багацейшыя студэнты плацілі за ўтрыманьне 8 грывень на год, з сумы якой былі дзьве стыпэндыі для зусім бедных Крывічоў, якія вучыліся на тэалёгіі.

Так на ўтрыманьне бурсы, як і ўнівэрсытэту нясьлі ахвяры й запісы ніхто іншы, як нашыя паны й князі, уважаючы гэтыя ўстановы сваімі, літоўскімі. Зь ведамых дабрадзеяў назавем: 1) Галену Керзгайліху, якая запісана ў актах, як „Helene de Litphania“, мабыць жонка Віленскага кашталяна, Міхала; 2) Міхала Керзгайлу, мужа Гелены; 3) Яна Гаштаўта, надворнага маршалка Вітаўта, пазьней Віленскага Ваяводу; 4) Дароту, ягоную жонку; 5) Станіслава Валімента; 6) Уладыслава Бутрыма, надворнага маршалка й пана ў Жырмонтах. Аб гэтых дабрадзеях перахаваліся весткі ў унівэрсытэцкіх актах.

Заснаваньне студэцкага інтэрнату, а што важнейшае, зацьверджаньне Кракаўскага Унівэрсытэту Папай Янам 23 28 ліп. 1410 г. спрычынілася да яшчэ большага наплыву літоўскай моладзі. Нажаль, перахаваліся толькі адрывачныя весткі аб тагачасных студэнтах, на аснове якіх можна мець толькі прыкладовае ўяўленьне аб літоўскай моладзі. Паводля Прогаскі («Вітаўт кн. Літоўскі», папольск. В-ва, 1913; Др. Ян Фіялэк, 136) у 1413 г. паступіла на Ягайлавы Унівэрсытэт трох «ліцьвіноў»: Марцін с. Рыгора й Мікола с. Міхала зь Вільні ды Міхал з Трокаў.

У 1414 і 1415 гг. — Якуб і Піліп зь Вільні.

У 1419 г. Фіялэк налічыў сямёх нашых новых кандыдатаў: Гэрмана Гедройця, князя й сваяка каралевы Зофіі Гальшанскай, ад якога пазьней усе Гедройці з-пад Вільні называліся «літоўскімі князямі» пры атрымоўваньні навуковых ступеняў; Мацея зь Вільні; Пётра с. Паўлы зь Ліцьвы; Грыгора Ліцьвіна; Міхала прэпозыта Новатроцкага; Мікалая й Лявона зь Вільні.

Нас больш цікавіць пералік тых Крывічоў, якія здабылі навуковыя ступені, хоць таксама няма дакладных дадзеных. Першым бакаларам быў Якуб зь Вільні ў 1419 г. Праўдападобна быў Віленскім канонікам, а пасьля япіскапам Жамойцкім у Медніках. У 1426 г. атрымаў ступень бакалара Багдан зь Вільні пасьля сямігадовай навукі. Доўгі пэрыяд навукі не абазначае зусім няўдольнасьці ў навуках, але беднасьць, бо кандыдат мусіў злажыць даволі высокую плату за экзамены. У наступных гадох (1427, 1428) Станіслаў і Ян Віленчукі атрымалі ступені магістраў, зь якіх аопшні быў Віленскім канонікам.

Далейшым вялікім апякуном літоўскай моладзі была (ад 1422) чацьвертая жонка Ягайлы, каралева Зофія, маці Уладыслава (Варнэнчыка) і Казіміра. Дакуманты яе называюць «дабрадзейка найасаблівейшая». Зь вялікай яе ласкі карыстаўся Герман Гедройць, які ў 1426 г. атрымаў бакалара, а ў 1434 — магістра. Як сваяк каралевы й поўнасьцю адданы палітыцы Ягайлы яшчэ ў часе сваіх студыяў быў канонікам Кракаўскім. Пасьля атрыманьня ступені магістра ўвайшоў таксама да капітулы Влоцлаўскай на Кувях, дзе дастаў пасаду пралата. Зь ім зьвязаная гагіяграфічная легенда, як аб сьвятаблівым.

Слава Германа Гердройця ў Польшчы была выкарыстана студэнтамі Гедройцямі з-пад Вільні, якія пры навуковых ступенях атрымоўвалі дапіску — «князь Літоўскі». Так стаўся «князям» Альбрахт Майжэйкавіч з Гедройцяў, атрымаўшы ў 1464 г. бакалара, Габрыель с. Юрага — бакалар у 1475 г.; Юры с. Мацькі — бакалар у 1477; Мікола с. Юрага — бакалар 1465. Такім парадкам аж 5 Гедройцяў, «князёў Літоўскіх» атрымала на працягу дзесяці гадоў навуковыя ступені. У дакумантах знаходзім, што адзін з Гедройцяў, Юры ўславіўся сваёй задзёрыстасьцяй і авантурніцтвам у Кракаве. Відаць, што тады існаваў антаганізм (варожасьць) да Палякаў, бо названы Гедройць з групай сваіх літоўскіх студэнтаў здорава пабілі ў часе бойкі нейкага Станіслава Ленчычаніна.

З пазьнейшых гадоў Гедройці зноў выходзяць на паверхню ў дакумантах Кракаўскага Унівэрсытэту. Так 26 лютага 1491 запісаўся Станіслаў с. Паўла з Гедройцяў разам з 5 іншымі: зь Меднікаў, Дакудава, Вільні і Варнянаў. Летам 1499 г. Мікалай с. Станіслава з Гедройцяў Віленскіх з 4 іншымі: з Сурвілішак, зь Вільні. Шмалікія бойкі Ліцьвіноў пад праваднiцтвам Гедройцяў з Палякамі й Немцамі сьведчаць, што нашыя студэнты трымаліся грамадой свае нацыянальнай салідарнасьці. Іншай групай былі нашыя студэнты з Геранёнаў, якія падаваліся за нашчадкаў Гаштаўтаў. Зь іх Марцін с. Андрэя атрымаў бакалара ў 1458 г. Ян с. Стэфана — у 1479 г. Ян с. Францішка, запісаны ў 1468 г. Маем таксама групу з Салечнікаў — магістра Мікалая, які ў 1453 быў выбраны на пасад Віленскага япіскапа, Мікалая II, магістра філязофіі пам. 1462; бакаляры з Салечнікаў — Ян Пятровіч — 1455 запісаны, бак. 1460; Лаўрынец с. Марціна — бак. 1471; Тамаш с. Стэфана, Салямон с. Міхала, і інш.

✶

Былі Ліцьвіны (Крывічы) і прафэсарамі Ягайлавага Унівэрсытэту ў Кракаве. У запісках унівэрсытэцкіх сярод імёнаў прафэсараў вызваленых навукаў названыя 2 Станіславы зь Вільні, памёршыя перад 1460 г. Першы зь іх быў прамаваны ў 1427 г., другі ў 1447 г., потым Віленскі япіскап.

Далей цэнныя весткі аб нашых вучоных дае мова Мікалая Казлоўскага на паніхідзе за душу памёршага Ягайлы, у якой моўца пералічае заслугі вялікага заснавальніка ўнівэрсытэту дзеля разьвіцьця культуры, забясьпечаньня ўнівэрсытэту й прафэсараў ды памножаньня літоўскіх навуковых кадраў. Адносна апошняга прамоўца казаў:

«У тым-жа ўнівэрсытэце ўтрымоўваў сваім поштам сыноў Ліцьвіноў і Русінаў, а вынікам гэтага ёсьць многа выпушчаных бакалараў, шмат магістраў і некалькі дахтароў, якія„ пасьвяціўшыся на сьвятароў, выкладаюць ды распаўсюджваюць веру сярод сваіх суродзічаў у роднай мове» (suis parentibus in ydiomate proprio). (Код. эпіст. сэк. XV, т. .I-.

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# У люстры выдавецкім

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

ся вам» аж 150-тысячным тыражом — нясьнёным для беларускага аўтара.

Што да чытача, ад імя якога забіраюць голас, дык ён якраз і наракае, што ягоныя запатрабаваньні не асабліва бяруць на ўвагу. Нядаўна ў менскай цэнтральнай кнігарні была сустрэча пісьменьнікаў з чытачамі. Як відаць з зацемкі, надрукаванай у літаратурнай газэце, чытачы ня мінулі нагоды, каб выказаць незадаволеньне дубальтаваньнем у Менску маскоўскіх выдавецтваў. Прыводзіліся вымоўныя прыклады. Белдзяржвыдавецтва перавыдала расейскі раман «Братья Ершовы». Кнігарня за два месяцы прадала ўсяго чатыры паасобнікі кнігі. Аўтар зацемкі, выказваючы жаданьні чытача, пытаецца: «А ці ня лепш было-б перавыдаць цудоўны твор Якуба Коласа «Дрыгву», на які ёсьць попыт?»

Наагул ня друкуюць шмат чаго. Ніводнае з трох выдавецтваў сялета нічога ня мае ў сваіх плянах зь літаратурнае адраджэнчае спадчыны 19-га й пачатку 20-га стагодзьдзя. Мінулі навет Купалу й Коласа. Выкідаюць выдатнейшую пару зь гісторыі народу, каб спадкаемцы ня мелі спадчыны, нацыянальных традыцыяў ды паслухмяна білі чалом, як найвышэйшай сьвятасьці, усяму расейскаму, акрыванаму «камуністычным заўтра».

Характэрна, за сорак гадоў бальшавіцкага панаваньня творы беларускіх пісьменьнікаў ніколі не выдаваліся масавымі тыражамі. Зусім няведамая зьява выданьня поўных збораў твораў. А той-жа чытач даўна іх дамагаецца. Аджа, такія выданьні могуць быць адно там, дзе дбаюць пра нацыянальную культуру, захаваньне традыцыяў народу, ягонае нацыяналнае ўзгадаваньне, як аснову ягонага развою, ягонага заўтрашняга дня. Ды дзеля гэтага найперш трэба мець сваю незалежную дзяржаўнасьць, каб ня быць паднаглядным у чужынца.

Нельга браць на ўвагу поўнага выданьня Акадэміяй навук твораў Максіма Багдановіча ў 27—28 гадох, бо яно зьявілася да разгрому г. зв. нацдэмаў. Падрыхтаванае да таго-ж разгрому акадэмічнае выданьне твораў Алеся Гаруна ўжо забаранілі й выпадкава дазволілі выдаць адно «Матчын дар» з засьцерагальнай прадмовай. Таксама ня ўбачыла сьвету падрыхтаванае Язэпам Лёсікам гэткае выданьне твораў Каруся Каганца.

Купалу й Коласа дазволена называць клясыкамі беларускае літаратуры. Іх залічаюць аж у пачынальнікі «сацыялістычнага рэалізму». А вось творчасьць народных паэтаў няведама калі дачакаецца поўнага выданьня. Дый наагул ці дачакаецца. Яе, як і ўсю літаратуру беларускага адраджэньня, неадступна й пільна вымяраюць савецкаю меркай «прагрэсыўнае спадчыны». Усё, што не ўкладаецца ў мерку, застаецца па-за чытацкім доступам.

Не даюць пашыраць літаратуру пары адраджэньня, бо яна была ськіваваная да нацыянальнае сьведамасьці паняволенага народу. Гэтая літаратура яшчэ ня выканала да канца свае ролі. Яна — і выдатны помнік мінуўшыны, а разам і дзейсная часьціна сучаснасьці, бо ўсё яшчэ трывае паняволеньне, у пратэсьце супраць якога яна нарадзілася. Кажучы Купалавымі словамі, яна «з думкамі ходзіць Забранага краю». Гэтымі думкамі яна ня можа не прамаўляць і да жыхароў цыркулярна-сувэрэннай БССР, будзе выклікаць у іх водгук-роздум і руйнаваць афіцыйную ідэялёгію. У гэтым сяньняшні рэжым, як і ягоны папярэднік, бачыць небясьпечнасьць адраджэнчае літаратуры, ейнае палітычнае крамольства.

Вось чаму не перастае дзеяць цэнзура, нікога нямінаючы. Таму няма ніводнага поўнага збору твораў. А дазваляная, цэнзурна выбранае абмяжоўваюць тыражом, разавым выданьнем, абсаджаюць спэцыфічнымі прадмовамі ды ўступнымі артыкуламі, каб абясшкодзіць, выветрыць з мастацкага слова заклікальны нацыянальны зьмест.

Такі ўжо лёс творчасьці пісьменьніка паняволенага народу — паміж ёй а народам стаіць панявольнік зь ягонай забаронай і ўсялякімі абмежавальнымі прыхваткамі. Гэткі лёс і наагул кнігі ў роднай мове. Ёй не даюць ходу, яе не памнажаюць, а выпіхаюць, гвалтоўна заступаюць друкам чужамоўным. Ягонай залевай хочуць захлынуць жывую народную мову.

Мэта спрадвечная. Расейскія бальшавікі не пачынальнікі, а толькі спадкаемцы народжаных тым-жа нацыянальным асяродзьдзем уладароў, якія ў мінулым стагодзьдзі былі афіцыйна забаранілі нашае друкаванае слова. Забаранілі, каб прышчапіць чужацкае, сваё, каб яно мела непадзельнае панаваньне.

І сяньня разам з абвешчаньнем «разгорнутага будаўніцтва камунізму» ўсё часьцей пішуць пра недалёкі надыход запанаваньня адзінае мовы на ўсім савецкім абшары. А ў сувязі з гэтым прапагуецца культ мовы расейскай. Яна абавязкавая, узьвялічаная, неабмежаная ў прасторы свайго пашырэньня, мянаваная ня йнакш, як «мовай сацыялістычнай садружнасьці». Мэта даўная. Толькі іншая грапагандовая прыправа ў змаганьні з друкаваным словам, з жывою мовай, з нацыянальнай культурай падбітых народаў.

**Алесь Беразьняк**

на. Таму, зарабіўшы дзе даляра, я самотным ішоў на чарговы музычны канцэрт, каб пасьля сабе самому, часьцей ня ў голас, а ціхама, для душы напяваць пачутыя мэлёдыі. Паступова пачаў яшчэ больш цурацца людзей і жыў у сваім собскім, уяўным сьвеце гукавое прыгажосьці. Калі я сустракаў на вуліцы паліцыянта Пола, стараўся абыйсьці яго, каб ня трапіць на ягоны пранізьлівы зрок. Але я адчуваў, як ягоныя вочы сьвідруюць маю сьпіну й як ён усьлед пушчаў у мой адрас брыдкае слоўца. Мне ня лёгка было заглушыць у сабе выбух гневу супраць беспадстаўнае прадузятасьці да мяне гэтага пабочнага, чужога мне, чалавека. Маё няшчасьце было толькі ў тым, што я нарадзіўся й жыў на адной зь ім вуліцы. Але той нядобры агенёк, які сьвяціўся ў ягоных вачох пры спатканьні зы мною, вымоўна казаў мне, што я магу чакаць ад яго ўсяго найгоршага.

Неўзабаве мае прадчуваньні спраўдзіліся. Калі недалёка ад нас здарыўся якісь дробны крадзеж, мяне выклікалі на допыт у паліцыю. Пол стаяў за плячыма службоўцаў паліцыі й штось часта шаптаў ім на вуха. І пасьля кажнага нашаптанага ім слова тыя вызьвяраліся на мяне, як на закаранелага злачынцу. Выходзіла, для іх зусім ясна, што гэта — справа маіх рук, а мне застаецца толькі пакаяцца і сумленна расказаць пра свае крымінальныя ўчынкі. У мяне калацілася ўсё нутро ад несправядлівасьці. Я быў абражаны да самага сподy мае душы. Толькі той, хто перажыў абвінавачаньне ў самых брудных справах, якіх ён ніколі і ня думаў рабіць, можа зразумець ступень майго абурэньня. Мне было ясна, як Божы дзень, што гэты паклёп — справа рук бруднае сьвіньні Пола. Без ягонага нагавору ніколі ніхто-б мяне не падазраваў-бы ў гэткіх учынках. Калі мая душа сьпявала ў прыгожых нябёсах, на яе швырнулі гразёю з саміх смуродных сьцёкаў. Калі я сядзеў перад імі чысты і ўзьнёслы, хітрыя вочы сьледчых і лісьлівы твар Пола выдавалі іхняе ўяўленьне пра мяне, як шэльму і дробнага злодзея. Як мага я стараўся гасіць у сабе вулькан абурэньня і знадворна спакойна адмаўляў усё, прыпісанае імі. Тады Пол нешта доўга нахіляўся да вуха старэйшага. Ягоны твар аж наліўся чырваньню ад гневу супроць упартага злачынца. За гэтым з бакоўкі выйшлі два здаровых дзяцюкі, узялі мяне пад пахі і прыўзьнялі з крэсла. Раптам адзін зь іх неяк асабліва спрытна выгнуў мае рукі назад, а другі, стукнуўшы мне ў патыліцу, ураз зваліў мяне на падлогу. У першы момант я думаў, што сьледчыя загадаюць спыніць гэты зьдзек. Але відаць моцным было перакананьне ў маёй вінаватасьці, калі тыя навет і ня кіўнулі пальцам, каб заступіцца.

І тады я зразумеў, што надта моцныя карэньні пусьціў Полаў паклёп на мяне, і што мне ня лёгка будзе выбрацца з-пад гэтае навалы нянавісьці й помсты чалавека, што ня вынес сьведамасьці вышэйшасьці з боку зялёнага юнака. Магчыма Пол быў і запраўды перакананы ў маёй злачыннай істоце, бо ўжо-ж надта я быў непадобны на ўсіх хлопцаў нашага места. Ягонай зчарствелай душонцы не зразумелымі былі ўзьлёты ў блакіт да харáства. Асабістая пагарда пабольшвала яго падозраньні. Мае частыя наведваньні тэатру абярнуліся ў ягоным уяўленьні доказам здабываньня сродкаў нячыстымі шляхамі. Відаць, чалавеку, што акрамя доўгу службовага кантролю, ніколі ў жыцьці добраахвотна не падыйшоў да касы тэатру за білетам, заўсёдныя тэатраманы іначай не ўяўляліся, як плямя дармаедаў і злачынцаў. Ува мне нарэшце заклёкатала маладая кроў. І я наважыўся ўцякаць. Я перачакаў, пакуль мяне зноў пасадзілі на крэсла. Зьніклі ў бакоўку абодвы макабойцы. Пачаліся шэпты й нарады з Полам. Маё-ж вока яшчэ раней заўважыла расчыненае вакно й бачны праз яго кавалак блізкага даху. У вакамгненьні я кінуўся праз яго насустрач волі. Па роўнай паверхні я прабег улева да сьхілу, адтуль пераскочыў на суседні дах, па сходах апынуўся ўнізе, незаўважна выйшаў на іншую вуліцу і, сеўшы ў таксі, даехаў да вакзалу. На шчасьце у кішэні было на білет да Нью Ёрку ды на першыя выдаткі на новым мейсцы.

З раніцы да паўдня я гойсаў па Бродвэйскіх ходніках, заглядаючы ў залі з рознымі аўтаматычнымі забавамі. Пасьля полудня я купіў сабе цацкавы рэвольвэр. На Пятай эвэню я ўвайшоў у першы спатканы будынак банку. Народу было небагата. Я неўзабаве апынуўся каля касіршы. Наставіўшы на яе спад рукава пінджака рулю гэтага хлапчукована нагану, я змусіў яе пабляднець і пакласьці мне тысячу даляраў. Згробшы здабытак, я стралою зьнік з будынку. Натоўп праглынуў мяне раней, чымся паліцыя адумалася біць трывогу.

Удача акрыліла мяне. Неўзабаве я набыў сабе люксусовы запраўдны рэвольвэр. Я стаў помсьціць паліцыі за зьдзекі й кпіны нада мною, калі я быў ні ў чым невінаваты і здавалася, мусіў стаяць вышэй усялякіх падазраньняў. Я помсьціў ёй тым, што даводзіў ейную бездапаможнасьць пасьля кажнага майго аграбленьня банку. Колькі яна за мною ні ганялася, мне кажны раз удавалася перахітрыць яе й выйсьці сухім з аблогі. І цяпер, пасьля колькіх дзесяткаў удалых банкавых аграбленьняў, калі я праходжу каля надзьмутага ад усьведамленьня свае сілы й перавагі індзюка ў паліцыйнай форме, я ў думках сьмяюся зь ягонага бясьсільля злавіць мяне на мейсцы злачынства. Вось, вы думалі, што я дробны злодзей, а я тымчасам варочаю сотнямі тысячаў і магу пры жаданьні купіць цябе разам з тваімі вантробамі і хцівай на грошы душонкаю. А калі-ж часамі паліцыянт і напаткае мяне ў часе работы, я пасылаю яму сьвінцовага гасьцінца проста ў ягоную тлустую лабаціну. Пры гэтым я прыгадваю сваю собскую бітую патыліцу, і пачуцьцё спраўджанага рэваншу дае мне задавальненьне. Я ведаю, што ня вечна будзе мяне спасьцігаць удача. Прыйдзе час, і мусіць хутка, калі мне прыдзецца цаною свайго жыцьця заплаціць за ўсе бяздумныя галовы, расквашаныя мною на шмат якіх жывёльных плячах. Але я не шкадую, я давёў, што я ня той, за каго яны мяне прымалі, я ня дробны злодзей, што лазіць у кішэні! А пакуль мяне яшчэ носяць ногі, няхай дрыжаць усе лапшывыя на паліцэйскіх пастох!

**Далей будзе**

